**УК «АБЛАСНАЯ БІБЛІЯТЭКА імя М. ГОРКАГА»**

# МІКАЛАЙ ПЯТРОВІЧ КУЗЬМІЧ: ЧАЛАВЕК СТАГОДДЗЯ

*БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК*

**Брэст**

**2011**

УДК 016 : 75 (476.7) + 929
ББК 91.9 : 85 + 85.125.4(4Беі-4Брэ)-8
К 89

**Складальнікі:**
Т. С. Філіпава – загадчыца аддзела літаратуры па мастацтву,
В. А. Гарбачэўская – загадчыца інфармацыйна-бібліяграфічнага аддзела

**Пад рэдакцыяй:**
А. М. Мяснянкінай – намесніка дырэктара па навуковай рабоце
Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага,
Т. С. Кавенька – загадчыцы аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі

К 89 **Мікалай Пятровіч Кузьміч: Чалавек стагоддзя: біябібліяграфічны паказальнік** / УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» ; складальнікі: Т. С. Філіпава, В. А. Гарбачэўская. – Брэст : Паліграфіка, 2011. – 52, [16] с. : іл.

ISBN

Біябібліяграфічны паказальнік пра вядомага брэсцкага мастака-ювеліра Міколу Пятровіча Кузьміча ўключае кароткі нарыс жыцця і дзейнасці, асноўныя даты жыцця і творчасці, пералік выставак, на якіх экспанаваліся творы М. П. Кузьміча, літаратуру аб ім і яго творах з фондаў Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага, спіс перыядычных выданняў, матэрыялы з якіх уключаны ў дапаможнік, імянны паказальнік і інш. Упершыню публікуюцца ў дадатках аўтабіяграфія мастака і экфразіс іконы «Нововизантийская икона «Архангел Михаил» краязнаўца Валерыя Мароза.

Біябліяграфічны паказальнік разлічаны на даследчыкаў мастацтва, супрацоўнікаў бібліятэк, музейных работнікаў, краязнаўцаў і ўсіх тых, хто цікавіцца творчасцю мастака.

**УДК 016 : 75 (476.7) + 929**
**ББК 91.9 : 85 + 85.125.4(4Беі-4Брэ)-8**

**ISBN 978-985-6970-01-9**

# ПРЫГОЖАЯ ДОЛЯ

*Міколу Кузьмічу*

Рабіць добра сваё
і не лезці ў чужое.

Не пераймацца намовамі,
трымацца развагі.

Не самавялічыцца
і не прыніжацца.

Разумець мову каменя, мову агню
і даць мову эмалі.

Крыжам Лазара Богшы
самкнуць звёны часу

і трымацца ў ім сціпла.
І упарта доўжыць
у плавільні жыцця

злютоўку сэнсаў іменнасці
і мастакоўскага паклікання.
Гэта вельмі прыгожая доля,
як сам ты, зямляча!

**Ніна Мацяш**

# ПРАДМОВА

Біябібліяграфічны паказальнік прысвечаны жыццю і творчасці брэсцкага мастака-ювеліра Міколы Кузьміча. Дапаможнік складзены на аснове фондаў Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага з выкарыстаннем даведачна-бібліяграфічнага апарата бібліятэкі, а таксама спосабам прагляду бібліяграфічных паказальнікаў Нацыянальнай кніжнай палаты і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, штомесячнага бібліяграфічнага бюлетэня «Новыя кнігі: па старонках беларускага друку». Выданне ўключае ўсе выяўленыя крыніцы на беларускай і рускай мовах за 1987–2011 гг. Адбор літаратуры завершаны ў чэрвені 2011 года.

Бібліяграфічныя запісы зроблены ў адпаведнасці з міждзяржаўнымі стандартамі «ГОСТ 7.1–2003. Библиографическая запись. Библиографическое описание. Общие требования и правила составления», «ГОСТ 7.80–2000 Библиографическая запись. Заголовок. Общие требования и правила составления», «СТБ 7.12–2001 «Бібліяграфічны запіс. Скарачэнне слоў і словазлучэнняў на беларускай мове. Агульныя патрабаванні і правілы» і «ГОСТ 7.12–93. Библиографическая запись. Сокращение слов на русском языке».

Матэрыял згрупаваны ў наступныя раздзелы:

- Чалавек стагоддзя
- Даты жыцця і творчасці
- Пералік асноўных выставак, на якіх экспанаваліся творы М. П. Кузьміча
- Бібліяграфічныя матэрыялы
  *Жыццё і дзейнасць майстра*
  *Аднаўленне Крыжа Еўфрасінні Полацкай*
  *Стаўратэка для Крыжа Еўфрасінні Полацкай*
  *Стварэнне ракі для захавання мошчаў Святой Еўфрасінні*
  *Інтэрнэт-рэсурсы*
  *Вершы, прысвечаныя М. Кузьмічу і яго творам*
  *Выявы твораў мастака*
  *Відэафільмы*
- Дадатак 1. М. П. Кузьич Автобиография.
- Дадатак 2. В. В. Мороз Нововизантийская икона «Архангел Михаил»: Экфразис.

Бібліяграфічныя запісы размяшчаюцца ў прамым храналагічным парадку. Нумарацыя запісаў суцэльная. Тэкст паказальніка дапоўнены фотаздымкамі розных гадоў з сямейнага архіва мастака. У якасці дадаткаў прыводзяцца аўтабіяграфія майстра і экфразіс «Нововизантийская икона «Архангела Михаила» на рускай мове берасцейскага краязнаўца Валерыя Мароза. Матэрыял пададзены з захаваннем аўтарскай арфаграфіі і стылістыкі.

Даведачны апарат уключае алфавітны спіс перыядычных выданняў, матэрыялы з якіх уключаны ў выданне, і імянны паказальнік.

Біябібліяграфічны дапаможнік можа быць карысны даследчыкам мастацтва, супрацоўнікам бібліятэк, музейным работнікам, краязнаўцам і ўсім, хто цікавіцца творчасцю мастака.

*Скдалальнікі выказваюць шчырую падзяку жонцы мастака Таццяне Ўладзіміраўне і сыну Пятру за дапамогу падчас працы над бібліяграфічным паказальнікам.*

# ЧАЛАВЕК СТАГОДДЗЯ

У сучасным беларускім дэкаратыўна-прыкладным мастацтве творчасць заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Мікалая Пятровіча Кузьміча па праву атрымала прызнанне, ён вывучыў і аднавіў унікальную тэхніку старажытнавізантыйскай перагародчатай эмалі.

Нарадзіўся майстар 28 лістапада 1950 г. у в. Патрыкі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці. Спецыяльную адукацыю атрымаў у Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. Глебава ў 1982 г. Пасля быў размеркаваны на працу на Брэсцкі мастацкі камбінат. Праз некалькі гадоў, убачыўшы ювелірныя вырабы з эмаллю, «загарэўся» гэтай справай, якая стала галоўнай у жыцці майстра. Пачынаў сваю творчую дзейнасць М. Кузьміч з невялікіх ювелірных аздабленняў з медзі, мельхіёру і бронзы. Працуючы побач з ужо вядомымі майстрамі, ён не толькі набываў каштоўны вопыт, але і выпрацоўваў уласны мастацкі стыль. Мастак удасканальваў эмальерную тэхніку, удзельнічаў ва ўсерасійскіх і міжнародных выстаўках у Маскве і Мінску, на сімпозіумах у Юрмале (Латвія), Паланзе (Літва), Ла-Каруны (Іспанія), Кобургу (Германія).

У 1993 г. М. Кузьміч узяўся за складаны праект – па фотанегатывах і малюнках аднавіць Крыж Еўфрасінні Полацкай, створаны ў 1161 г. знакамітым ювелірам Лазарам Богшам. Майстру патрэбна было не толькі ўвасобіць выгляд крыжа, але і адрадзіць забытую тэхніку перагародчатай старажытнавізантыйскай эмалі. Амаль пяць гадоў працы ў маскоўскіх і пецярбургскіх музеях, архівах і сваёй майстэрні дазволілі раскрыць сакрэты тэхналогіі яе вырабу. У 1997 г. праца над крыжом была завершана. Пазней мастак пачаў працаваць над стварэннем стаўратэкі для крыжа, а 2002 г. стаў пачаткам работы над новым заказам Беларускай Праваслаўнай Царквы – ракай для захавання мошчаў Святой Еўфрасінні.

На працягу ўсёй творчай дзейнасці мастак звяртаецца да стварэння работ у тэхніцы гарачай эмалі. Творы незвычайна вобразныя і выразныя. Сярод іх – эмаль «Беларуская Атлантыда», серыі «Вежы», «Кветкавы рай», дэкаратыўныя кампазіцыі «Блакітныя сны», «Купалле», «Слуцкія паясы», «Рэгата», «Свята», «Салют», «Бабіна лета», «Мір табе, планета Зямля», «Памяць», «Прастора і час», «Рух». Полацкія матывы, помнікі даўніны, твары беларускіх святых і яркія

летнія асацыяцыі – тэмы невялікіх, але экспрэсіўных работ. Аўтар ажыўляе мінулае і стварае гармонію духу і майстэрства. Ён уводзіць у традыцыйныя тэмы новыя эксперыментальныя матывы, узбагачае іх сучаснымі прачытаннямі. Творы знаходзяцца ў музеях, галерэях і прыватных калекцыях Беларусі, ва Ўсерасійскім музеі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва г. Масквы, Германіі – г. Кобург, муніцыпальным музеі Іспаніі.

З 2004 па 2010 гг. М. Кузьміч узначальваў Брэсцкае абласное аддзяленне Беларускага саюза мастакоў. Ён узнагароджаны ордэнамі Святога Уладзіміра III ступені і Еўфрасінні Полацкай, ордэнам Крыжа Еўфрасінні Полацкай, медалямі князя Канстанціна Астрожскага (Польшча) і «За заслугі ў выяўленчым мастацтве» Беларускага саюза мастакоў. Мікалай Кузьміч – лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998), прэмій «За духоўнае адражэнне» (1997), «Берасцейская зорка» (1997) у намінацыі «Чалавек года». Біяграфічны цэнтр Кембрыджскага ўніверсітэта ў 1998 г. прысвоіў мастаку званне «Чалавек стагоддзя».

**Крыж Еўфрасінні Полацкай –** унікальны твор старабеларускага эмальернага мастацтва, помнік пісьменства XII ст.; рэлігійная і духоўная святыня беларусаў. Зроблены ў 1161 г. полацкім ювелірам Лазарам Богшам паводле заказу Еўфрасінні Полацкай як каўчэг для захавання хрысціянскіх рэліквій. Крыж шасціканцовы, вышыня 51,8 см, даўжыня верхняга перакрыжавання 14 см, ніжняга – 21 см, таўшчыня 2,5 см. Аснова з кіпарысавага дрэва, зверху і знізу пакрыта 21 залатой пласцінкай з каштоўнымі камянямі і 20 эмалевымі абразкамі, бакі абкладзены 20 сярэбранымі з пазалотай пласцінкамі, брыжы пярэдняга боку абведзены шнурком жэмчугу. Пласціны пярэдняга боку ўтвараюць іканапісную кампазіцыю – вялікі, або расшыраны, дэісус. На верхніх канцах крыжа паясныя выявы Хрыста, Маці Божай і Іаана Прадцечы. У цэнтры ніжняга перакрыжавання – 4 евангелісты, на канцах – архангелы Гаўрыіл і Міхаіл. Унізе – патроны заказчыцы і яе бацькоў: святая Еўфрасіння Александрыйская, святыя пакутнікі Георгій і Сафія. У верхнім перакрыжаванні прымацаваны невялікі 4-канцовы крыжык, у ніжнім – 6-канцовы. На адвароце – выявы айцоў царквы Іаана Залатавуста, Васіля Вялікага, Грыгора Багаслова, апосталаў Пятра і Паўла, а таксама святых Стафана, Дзмітрыя і Панцеляймона. З імі чаргуюцца эмалевыя арнаментальныя пласціны. Над кожным абразком часткова грэчаскімі, часткова славянскімі літарамі зроблены надпісы.

У сярэдзіне крыжа ў пяці квадратных падпісаных гнёздах знаходзіліся рэліквіі: кавалачкі крыжа Гасподняга з кроплямі яго крыві, кавалачак каменю ад дамавіны Маці Божай, часткі мошчаў святых Стафана і Панцеляймона, кроў св. Дзмітрыя. Унізе дробны надпіс з імем майстра: «Господи, помози рабоу своемоу Лазорю, нареченномоу Богъши, съделавъшемоу крьстъ сии црькви святага Спаса и Офросиньи». На баках крыжа па спіралі ў два рады зроблены вялікі Завяшчальны надпіс: «У лета 6669 кладзе Ефрасіння святы крыж у сваім манастыры, у царкве святого Спаса. Дрэва святое бясцэннае, акова ж яго золата і срэбра, і камяні і перлы на 100 грыўняў, а да… 40 грыўняў, і хай

не выносяць яго з манастыра ніколі, і не прадаюць, не аддаюць. Калі ж не паслухаецца хто і вынесе з манастыра, хай не дапаможа яму святы крыж ні ў жыцці гэтым, ні ў будучым, хай пракляты будзе ён святой жыватворнаю Тройцаю ды святымі айцамі… і хай напаткае яго доля Іуды, які прадаў Хрыста. Хто ж насмеліцца ўчыніць такое… валадар або князь, або епіскап ці ігумення, або іншы які чалавек, хай будзе на ім гэты праклён. Ефрасіння ж, раба Хрыстова, што справіла гэты крыж, здабудзе вечнае жыццё з усімі святымі…». Захоўваўся Крыж (з перапынкамі) у Полацку. У 1921 годзе быў рэквізаваны. У 1929–41 гг. зберагаўся ў Магілёўскім краязнаўчым музеі, адкуль знік пры нявысветленых абставінах. У 1992 г. прынята рашэнне аб узнаўленні крыжа і створана навукова-кансультатыўная група, у склад якой уваходзілі беларускія і расійскія вучоныя.

Мікалай Кузьміч на працягу пяці гадоў (з 1992 па 1997 гг.) працаваў над узнаўленнем крыжа найпадобнай Еўфрасінні Полацкай. 30 чэрвеня 1997 года мітрапаліт Філарэт уклаў ва ўзноўлены крыж-стаўратэку часцінкі крыві Хрыстовай, дрэва Чэснага і Жыватворчага Крыжа, Каменя ад Труны Гасподняй і Каменя ад Труны Прасвятой Багародзіцы, часцінкі святых мошчаў. У 1997 г. праца над узнаўленнем крыжа была завершана. Усеправаслаўная святыня была асвечана і ўстаноўлена ў Полацкім Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры. Узнаўленне Крыжа найпадобнай Еўфрасінні Полацкай, яго ўсенароднае прызнанне як нацыянальнай і ўсеправаслаўнай святыні стала бясцэннай ніццю, што звязвае часы і народы.

**Стаўратэка для Крыжа Еўфрасінні Полацкай**

23 чэрвеня 2001 года Крыж Еўфрасінні Полацкай быў дастаўлены на некалькі дзён з Полацка ў Брэст. У гарадскім кафедральным саборы ў імя святога Сімяона Стоўпніка ён быў уложаны ў стаўратэку, вырабленую Мікалаем Кузьмічом. Стаўратэка – гэта спецыяльны куфэрак для захоўвання крыжа. Яна ўяўляе сабою прамавугольны футляр (даўжыня стаўратэкі 75 см, шырыня 60 см, вышыня 7 см), які абшыты зверху сярэбранымі з пазалотай пласцінкамі, усярэдзіне ніша для Крыжа выслана натуральным цёмна-зялёным аксамітам. Па перыметру знешняга боку – літыя металічныя карункі, якія выкананы паводле арнаментальных матываў XIII ст.: выразны акруглы рапорт, вытанчаная вязь і перапляценне частак арнаменту выдаюць старажытныя рэмінісцэнцыі, да якіх звярнуўся аўтар, каб дасягнуць больш поўнай адпаведнасці сучаснага вырабу творам старажытнай мастацкай традыцыі. Зверху, па баках і ўнізе арнамент «разрываецца» эмалевымі абразкамі з выявамі Гроба Госпадня, прылад катавання Ісуса Хрыста, на двух эмалевых пласцінках пасярэдзіне крыжа – выявы святых імператара Канстанціна і яго маці Алены, пасярэдзіне ўнізе – мініяцюрныя выявы самой Еўфрасінні Полацкай, а таксама святых архангелаў Міхаіла і Гаўрыіла. Зверху на ражках – дзве эмалевыя выявы шасцікрылых херувімаў. Кожная выява непаўторная, з'яўляецца дасканала выкананай стылізацыяй старажытнавізантыйскай эмалі, якой уласціва стрыманая экспрэсія. Эмаль з залатымі перагародкамі выканана М. Кузьмічом з віртуозным майстэрствам.

Перад намі – аўтарскі выраб, свабоднае ўвасабленне мастацкай задумкі майстра. На бакавой частцы стаўратэкі ціснёны надпіс на старaславянскай мове, які паведамляе час, месца вырабу і інш., заканчваецца словамі: «Сотворена: с молитвою о ниспослании помощи Божией благосостояния Церкви и благоденствия народу Белой Руси». З адваротнага боку мы бачым барэльеф Крыжа – сімвала жыцця – ў акружэнні арнаментальных разетак, якія размешчаны на плоскім полі. Стаўратэка ўпрыгожана каштоўнымі камянямі няправільнай формы, якія захавалі сваю непаўторную прыродную прыгажосць.

Асвячэнне стаўратэкі было здзейснена патрыярхам маскоўскім і ўсяе Русі Аляксіем II, які ў тыя дні наведваў беларускую зямлю.

Стаўратэка – унікальны помнік ювелірнага мастацтва, дзе арганічна спалучаюцца старажытныя тэхналогіі і сучаснае майстэрства, а адроджаная перагародчатая эмаль прадстаўлена як мастацкая з’ява новай эпохі.

**Стварэнне ракі для захавання мошчаў Святой Еўфрасінні**

У 1173 годзе полацкі епіскап Дыянісій благаславіў блажэнную Еўфрасінню пакінуць Полацк. На схіле гадоў праведная ігумення здзяйсняе паломніцтва ў Святую Зямлю да Гроба Гасподняга. Наведала ігумення Полацкая і Царградскую Сафію, тройчы малілася ў Гроба Гасподняга. 5 чэрвеня 1173 года, знясіленая падарожжам, пасля хваробы прападобная Еўфрасіння скончыла свой зямны шлях. Пахавана была першая з усходнеславянскіх святых у манастыры святога Феадосія каля Іерусаліма пры паперці царквы Прасвятой Багародзіцы, дзе знаходзілі вечны спачын праведныя жоны. Праз 14 гадоў, ў 1187 годзе, Іерусалім захапіў егіпецкі султан Салах-ад-Дзін. Хрысціяне, якія пакінулі Святую Зямлю, ўзялі з сабой мошчы полацкай княжны, і яны былі перапахаваны ў Феадосіеву пячору Кіеўскай лаўры, дзе і пакоіліся больш за сем стагоддзяў.

І толькі ў 1910 годзе параходам па Дняпры святыя мошчы даставілі на родную зямлю – у Полацк (яшчэ ў 1833 годзе жыхары горада звярталіся ў Сінод з просьбай аб перанясенні астанкаў у манастыр, пабудаваны Еўфрасінняй). Прывезлі ў грабніцы, выробленай у выглядзе старажытнага саркафага на ахвяраванні вернікаў. Але ў 1922 годзе здарылася святатацтва: раку адкрылі члены спецыяльна створанай камісіі Камісарыята юстыцыі РСФСР. Мошчы князёўны Полацкай тады адправілі на атэістычную выставу ў Маскву, адтуль – у краязнаўчы музей Віцебска. І толькі ў 1943 годзе астанкі вярнуліся ў Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі жаночы манастыр. А вось куды знік арыгінальны саркафаг, дагэтуль невядома.

У 2003 годзе з благаславення мітрапаліта Філарэта Мікалай Кузьміч прыступіў да працы над новай ракай. Па памерах новая рака подобная на невялікі каўчэг, але толькі серабра на яе выраб спатрэбілася 106 кілаграмаў. Кляновая рама-каркас апрацавана масцікай, абліцавана сярэбранымі пласцінамі і з чатырох бакоў упрыгожана бронзавымі залачонымі барэльефамі. Выявы на іх адпавядаюць архіўнаму апісанню, але адрозніваюцца ад арыгінала, бо адсутнічаюць дакладныя гістарычныя сведчанні і якасныя фотаадлюстраванні. Толькі цэнтральны барэльеф з постаццю Еўфрасінні – дакладная копія першакрыніцы XII ст.

Фундаментальнасць суседнічае з тонкай ювелірнай работай. Знешні бок ракі ўпрыгожваюць барэльефы, якія адлюстроўваюць перанясенне мошчаў святой з Іерусаліма ў Кіеў і закладку іх у манастырскай царкве Усяміласцівейшага Спаса.

Вінаградная лаза і арнамент з каляровай эмалі акантоўваюць раку. Бакавыя паверхні пакрыты пазалотай. Верхняе века надмагілля асабліва ўражвае: вобраз прападобнай у поўны рост вянчае німб з рубінамі і жамчугамі. У раку ўстаўлена труна, выробленая з кіпарысавага дрэва ў майстэрні «Мінскрэстаўрацыі». 5 чэрвеня 2007 года – у дзень памяці беларускай святой – пасля абраду асвячэння сюды змясцілі мошчы Еўфрасінні Полацкай, убраныя ў адзенне, над якім працавалі полацкія манашкі-залаташвейкі. Рака, завершаная ў 2007 г., стала аўтарскім творам, які выявіў погляд чалавека нашага стагоддзя на падзеі далёкай мінуўшчыны.

# ДАТЫ ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ

1950 – нарадзіўся ў в. Патрыкі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці

1968 – 1971 – служба на Паўночным флоце

1978 – паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава

1982 – скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава

1983 – пачатак выставачнай дзейнасці

1987 – прыняты ў Беларускі саюз мастакоў

1993 – пачатак працы па аднаўленні Крыжа Еўфрасінні Полацкай

1994 – паездка ў Іерусалім

1997 – завершана работа над аднаўленнем Крыжа Еўфрасінні Полацкай

1997 – лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне»

1997 – лаўрэат прэміі «Берасцейская зорка» у намінацыі «Чалавек года»

1997 – узнагароджаны ордэнам Святога Ўладзіміра III ступені

1998 – Інтэрнацыянальным Біяграфічным цэнтрам (Кембрыдж, Англія) названы Чалавекам XX стагоддзя; узнагароджаны медалём князя Канстанціна Астрожскага (Польшча)

2000 – Медаль Беларускага саюза мастакоў «За заслугі ў выяўленчым мастацтве»

2001 – завяршэнне работы над стаўратэкай для Крыжа Еўфрасінні Полацкай; Патрыяршая грамата «За старанную працу на славу святой царквы»

2002 – узнагароджаны ордэнам Крыжа Еўфрасінні Полацкай; пачатак работы па аднаўленні ракі для захавання мошчаў Еўфрасінні Полацкай

2004 – узначальвае Брэсцкае абласное аддзяленне Беларускага саюза мастакоў

2007 – завяршэнне работы над ракай для мошчаў Еўфрасінні Полацкай; узнагароджаны ордэнам найпадобнай Еўфрасінні ігуменні Полацкай; прысвоена званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ»

2010 – узнагароджаны граматай Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта; узнагароджаны граматай упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама.

# ПЕРАЛІК АСНОЎНЫХ ВЫСТАВАК, НА ЯКІХ ЭКСПАНАВАЛІСЯ ТВОРЫ М. П. КУЗЬМІЧА

1983 – выстаўка «Фізкультура і спорт»

1984 – рэспубліканская выстаўка «Восень-84» (г. Мінск); рэспубліканская выстаўка «Подзвігу народа жыць у вяках»; усесаюзная выстаўка «Зямля і людзі» (г. Масква, Расія)

1985 – рэспубліканская выстаўка «Мастакі - народу»; рэспубліканская выстаўка «Мастакі ў барацьбе за мір»; сімпозіум па эмалі (г. Паланга, Літва); усесаюзная выстаўка ў музеі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (г. Масква, Расія); рэспубліканская выстаўка «40 гадоў Перамогі»; рэспубліканская выстаўка «Восень-85»

1986 – рэспубліканская выстаўка «Мы будуем камунізм»

1987 – рэспубліканская выстаўка «Краіна саветаў»; міжнародны сімпозіум па эмалі (г. Юрмала, Латвія); міжнародная выстаўка, прысвечаная 25-годдзю палёту Ю. Гагарына ў космас; усесаюзная выстаўка ў музеі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (г. Масква, Расія)

1988 – міжнародны сімпозіум па эмалі (г. Паланга, Літва); усесаюзная выстаўка ў музеі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (г. Масква, Расія); усесаюзная выстаўка ў музеі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва

(г. Ленінград, Расія); усесаюзная выстаўка ў музеі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (г. Рыга, Латвія)

1989 – рэспубліканская выстаўка «Мастак і экалогія»; міжнародны сімпозіум па эмалі (г. Паланга, Літва)

1990 – рэспубліканская выстаўка, прысвечаная Ф. Багушэвічу; міжнародны сімпозіум па эмалі (г. Ла-Каруньяя, Іспанія); усесаюзная выстаўка ў музеі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (г. Масква, Расія)

1991 – рэспубліканская выстаўка, прысвечаная М. Багдановічу

1995 – міжнародная выстаўка (г. Кобург, Германія)

2006 – персанальная выстаўка твораў з эмалі ў Музеі сучаснага мастацтва (г. Мінск)

2007 – персанальная выстаўка (г. Брэст); персанальная выстаўка твораў з эмалі ў мастацкай галерэі (г. Полацк)

2008 – абласная выстаўка, прысвечаная 60-годдзю стварэння абласнога аддзялення Беларускага саюза мастакоў (г. Брэст); рэспубліканская выстаўка ў рамках выстаўкі абласных арганізацый Беларускага саюза мастакоў (г. Мінск); персанальная выстаўка твораў з эмалі ў Мастацкім музеі (г. Брэст) (уся калекцыя твораў перададзена ў дар музею); групавая выстаўка «Беларускія сустрэчы-2», галерэя «Профіль» (г. Познань, Польшча)

2009 – персанальная выстаўка (г. Брэст); міжнародная выстаўка «Ікона ў сучасным мастацтве» у галерэі езуітаў (г. Познань, Польшча); рэспубліканская мастацкая выстаўка-конкурс «Міленіум», прысвечаная 1000-годдзю Літвы; рэспубліканскі біенале дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (г. Мінск)

2010 – абласная выстаўка «Памяць», прысвечаная 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў; выстаўка «Сучаснае мастацтва Брэстчыны» у рамках рэспубліканскай выстаўкі «Зямля пад белымі крыламі» (г. Брэст); выстаўка «Сучаснае мастацтва Брэстчыны» у рамках рэспубліканскай выстаўкі «Зямля пад белымі крыламі» (г. Гродна); персанальная выстаўка эмалей у Музеі сучаснага мастацтва (г. Мінск)

2011 – персанальная выстаўка мастацкіх эмалей у краязнаўчым музеі (г. Баранавічы); выстаўка на Днях беларускай культуры (г. Ерэван,

Арменія); персанальная выстаўка (г. Брэст); міжнародны біенале па мастацкай эмалі (г. Вільнюс, Літва)

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

## ЖЫЦЦЁ І ДЗЕЙНАСЦЬ МАЙСТРА

1. Мароз, В. Амаль знікла эмаль… : [аб творчасці мастака] / В. Мароз // Мастацтва Беларусі. – 1987. – № 10. – С. 23–24.

2. Прыняты ў Саюз мастакоў : [Кузьміч Мікалай Пятровіч] // Мастацтва Беларусі. – 1989. – № 6. – С. 53.

3. Мінкін, А. Гэтая свавольніца эмаль / Алег Мінкін // Крыніца. – 1990. – № 8. – 2-я с. вокл. ; С. 1, 20–21 : іл. – Кампазіцыя з серыі «Чорнае і белае».

4. В мастерской художника / фото Эдуарда Кобяка // Заря. – 1992. – 4 февр. (№ 16). – С. 4.

5. Николай Кузьмич = Nikolay Kuzmich // Художники Брестчины. 50 лет : альбом-каталог / авт.-сост. Б. Крепак [и др.] ; дизайн и вёрстка И. Рыжковой ; фото репрод.: Э. Кобяк, Р. Кобяк ; пер. И. Желудко ; Бел. союз художников. Брест. обл. орг., Брест. комбинат «Мастацтва». – Минск, 1997. – С. 50.

6. Аб прысуджэнні прэміі «За духоўнае адраджэнне» 1997 года : Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 2 // Нар. газета. – 1998. – 9 студз. (№ 5/6). – С. 3. ; Нар. воля. – 1998. – 10 студз. (№ 4). – С. 2.

7. Мастер-эмальер Николай Кузьмич // Брест. курьер. – 1998. – 1–7 янв. (№ 1). – С. 3.

8. Півавар, Э. Крыніцы духоўнасці нашага народа невычарпальныя / Э. Півавар // Звязда. – 1998. – 9 студз. (№ 5). – С. 3.

9. За духоўнае адраджэнне : [лаўрэат прэміі 1997 г. – М. Кузьміч] // Нар. трыбуна. – 1998. – 10 студз. (№ 2). – С. 1.

10. Духовное и светское рядом : [премия «За духовное возрождение» Н. Кузьмичу] // Веч. Брест. – 1998. – 14 янв. (№ 4).

11. Возрождаемся духом : Н. Кузьмич стал обладателем премии «За духовное возрождение» // Брест. курьер. – 1998. – 15–21 янв. (№ 3). – С. 3.

12. Ефанов, В. Тайник для святого Креста / Владимир Ефанов // Сов. Белоруссия. – 1998. – 14 февр. (№ 43/44). – С. 10.

13. Кузьмич, Н. «Я понял, жизнь скоротечна и надо спешить делать добро» / беседовал В. Николайчук // Во славу Родины. – 1998. – 14 февр. (№ 28). – С. 3.

14. Чалавек XX стагоддзя з Брэста : [Біяграфічны цэнтр Кембрыджскага ўн-та прысв. М. Кузьмічу ганаровае званне «Чалавек стагоддзя»] // Навіны. – 1998. – 9 верас. (№ 95). – С. 2.

15. Козлович, В. Крест надежды нашей : [почётное звание «Человек столетия» присв. Н. Кузьмичу] / В. Козлович // Брест. курьер. – 1998. – 10–16 сент. (№ 37). – С. 1.

16. От святыни к призам удачи : [Н. Кузьмич завершил работу над гл. призами фестиваля «Белая вежа-98» – двумя Гран-при за лучшие спектакли в драме и кукол. искусстве] // Заря. – 1998. – 29 сент. (№ 109). – С. 2.

17. Хроніка мастацкага жыцця: званні : [Біяграфічны цэнтр Кембрыджскага ўн-та прысв. М. Кузьмічу ганаровае званне «Чалавек стагоддзя»] // Мастацтва. – 1998. – № 7. – С. 77.

18. Кузьміч Мікалай Пятровіч = Kuzmitch Mikalai Pyatrovitch // Беларускі саюз мастакоў = Belarussian Union of Artist : энцыкл. давед. / рэдкал.: Б. А. Крэпак (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1998. – С. 283.

19. Аксенін, С. Дэбют рэжысёра-земляка : [галоўны прыз – за лепшае ўвасабленне нац. тэмы атрымаў дакументальны фільм «Дабро ствара́й» – пра мастака М. Кузьміча] / Сымон Аксенін // ЛіМ. – 1999. – 5 лістап. (№ 44). – С. 3.

20. Кузьміч Мікалай Пятровіч // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. – Мінск, 1999. – Т. 8. – С. 565.

21. Тарасюк, У. Парк да 2000-годдзя хрысціянства [плануюць разбіць у в. Вулька-Антопальская Драгічынскага раёна, дзе нарадзіўся М. Кузьміч] / У. Тарасюк // ЛіМ. – 2000. – 7 крас. (№ 14). – С. 3.

22. Кузьміч, М. Нізкі паклон табе, мая зямліца // Панасюк, М. Дыялог на мяжы стагоддзяў 1999–2000. – Мінск, 2000. – С. 64–69.

23. Ткачук, Н. Ніна Трафімаўна, маці мастака // Панасюк, М. Дыялог на мяжы стагоддзяў 1999–2000. – Мінск, 2000. – С. 145–150.

24. Схема-праект паркавай сядзібы ў гонар 2000-годдзя хрысціянства і аднаўлення Крыжа Еўфрасінні Полацкай нашым земляком Мікалаем Кузьмічом // Нар. трыбуна. – 2000. – 29 крас. (№ 17). – С. 4.

25. Кузьмич, Н. Николай Кузьмич: «Для меня большая честь быть епархиальным художником…» / беседовала Нина Зырко // Заря. – 2000. – 28 нояб. (№ 135). – С. 2.

26. Рубашевский, Ю. У каждого свой крест / Ю. Рубашевский // Веч. Брест. – 2000. – 29 нояб. (№ 97). – С. 1–2.

27. Ткачук, Н. Ніна Трафімаўна, маці мастака… / Ніна Ткачук. ; фота Сцяпана Супруна // Нар. трыбуна. – 2000. – 29 крас. (№ 17). – С. 4.

28. Поздравляем! : замечательному мастеру ювелирного и эмальерного искусства, члену Белорусского союза художников Н. Кузьмичу исполнилось 50 лет // Брест. курьер. – 2000. – 30 нояб. – 6 дек. (№ 49). – С. 11.

29. Лагвіновіч, А. Міколу Кузьмічу – 50 / А. Лагвіновіч // Нар. трыбуна. – 2000. – 2 снеж. (№ 49). – С. 4.

30. Барысюк, У. Выязная лятучка ў майстэрні : [«НТ» у Міколы Кузьміча] / У. Барысюк // Нар. трыбуна. – 2001. – 21 крас. (№ 16). – С. 4.

31. Смолина, Л. Кузнецы Брестчины – всем кузнецам кузнецы : [по итогам первого респ. праздника-конкурса кузнецов «Золотая подкова», прошедшего в Пуховичском районе, брестчане заняли первое место во главе с именитым кузнецом нашего времни – художником-эмальером Николаем Кузьмичом] / Л. Смолина // Заря. – 2001. – 5 июля. (№ 74). – С. 1.

32. Дзенісейка, А. З імем Еўфрасінні Полацкай / А. Дзенісейка // Нар. трыбуна. – 2002. – 23 лют. (№ 8). – С. 4.

33. За Святой крест – церковные награды : [художник-эмальер Н. Кузьмич удостоен двух высоких наград православной церкви – ордена Преподобной Евфросинии Полоцкой и ордена князя Константина Острожского] // Брест. курьер. – 2002. – 13–19 июня (№ 24). – С. 3.

34. Николай Кузьмич = Nikolai Kuzmich // Художники Брестчины-2002 : альбом-каталог / авт.-сост. М. Коньков [и др.] ; Брест. обл. орг. общественного объединения «Белорусский Союз художников». – Минск, 2002. – С. 70.

35. Казловіч, В. Мікола Кузьміч узнагароджаны польскай праваслаўнай царквой / В. Казловіч // Нар. воля. – 2002. – 7 чэрв. (№ 109). – С. 2.

36. Кузьмич, Н. «Несите свой крест со смирением» / беседовал Геннадий Левчук // Духов. вестник. – 2002. – Авг. (№ 8). – С. 2.

37. Бурык, К. Яго ведаюць і ў Кембрыджы / К. Бурык // Нар. трыбуна. – 2003. – 29 лістап. (№ 48). – С. 4.

38. Сутько, Ю. «Звездное» трио из Антополя : [конкурс «Берасцейскія зоркі». Один из лауреатов в номинации «Человек года» – Николай Кузьмич] / Юрий Сутько // Заря. – 2003. – 8 июля (№ 74). – С. 2.

39. Арлоў, У. Уладзімір Арлоў: Чалавек розніцца ад жывёлы тым, што ўмее смяяцца / запісала С. Курс // Наша Ніва. – 2003. – 29 жн. (№ 31). – С. 12–13.

40. Шеламова, Т. «Хотелось бы реализоваться в свободной стране» : [творческая встреча с Н. Кузьмичом в Брестской областной библиотеке им. М. Горького] / Татьяна Шеламова // Веч. Брест. – 2003. – 28 нояб. (№ 98). – С. 8.

41. Антаноўская, І. Час адкрыцця : [уражанні бібліятэкара Абласной бібліятэкі імя М. Горкага ад вечара-сустрэчы з Мікалаем Кузьмічом] / Іна Антаноўская // Заря. – 2003. – 18 дек. (№ 143). – С. 3.

42. Бібліяграфічны спіс літаратуры, прысвечанай жыццю і творчасці Мікалая Кузьміча / склад. Іна Антаноўская ; УК «Абл. б-ка імя М. Горкага». – Брэст, 2004. – 9 с.

43. Игнатюк, Е. А. Лірычнае прачытанне тэмы «Палессе» у творах мастакоў Драгічыншчыны // Пинск в современной Беларуси : тезисы докладов научно-практической конференции молодых ученых Пинщины. – Пинск, 2004. – С. 71–75.

44. Арлоў, У. «Ленін не раз бываў у Полацку…» : [У. Арлоў узгадвае М. Кузьміча] / гутарыў Алесь Аркуш // ARCHE Пачатак. – 2004. – № 3. – С. 17–26.

45. Панасюк, Н. После жатвы – в храм : [Николай Кузьмич посетил новую церковь в д. Именин Дрогич. р-на] / Николай Панасюк // Бел. нива. – 2004. – 30 июля (№ 158). – С. 2.

46. Кузьмич, Н. Николай Кузьмич: «Тайны расскрываются во сне» / беседовал Анатолий Гурин // Сов. Белоруссия. – 2004. – 18 авг. (№ 154). – С. 8–9.

47. Кузьмич, Н. Николай Кузьмич: «Чудес не бывает без труда» / беседовала Любовь Павлова ; фото Юрия Макарчука // Брест. курьер. – 2005. – 29 июня (№ 27). – С. 8.

48. Згурка, І. Майстра Мікалай Кузьміч / Ірына Згурка // Згода. – 2005. – 12–19 лістап. (№ 41). – С. 13.

49. Павлова, Л. Юбилейная осень берестейских художников : [55-летие Николая Кузьмича, художника-эмальера, председателя Брестской областной организации Белорусского союза художников] / Любовь Павлова ; фото Юрия Макарчука // Брест. курьер. – 2005. – 24 нояб. (№ 48). – С. 9.

50. Вайтовіч, С. «Па заслугах нашых яна даецца» : [пра творчасць брэсцкага мастака Мікалая Кузьміча] / Святлана Вайтовіч // Мастацтва. – 2005. – № 12. – С. 18–19.

51. Шаранговіч, Н. «Традыцыя не павінна быць мёртвай» : [пра творчасць М. Кузьміча] / Наталля Шаранговіч // Культура. – 2006. – 2–8 снеж. (№ 48). – С. 7.

52. Пракаповіч, М. Паўсталі Рагвалодавы нашчадкі… : [творчасць берасцейскага мастака-эмальера М. Кузьміча] / Мікола Пракаповіч // Веч. Брест. – 2006. – 17 нояб. – С. 7.

53. Николай Кузьмич = Nikolai Kuzmich / авт.-сост. Наталья Шарангович ; Музей современного изобразительного искусства ; Бел. союз художников. – Минск, 2006. – 32 с. – На рус. и англ. яз.

54. Киприанович, Г. Я. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве / Григорий Яковлевич Киприанович. – Минск : Бел. Экзархат, 2006. – 351 с. – Упоминание о Н. Кузьмиче: с. 35.

55. Кузьмич, Н. П. «Не поднимаешься – значит, падаешь», – уверен мастер, воссоздавший Крест Евфросинии Полоцкой / беседовала Эмма Дзюрич ; фото Валерия Короля // Заря. – 2006. – 28 янв. (№ 11). – С. 8–9.

56. Дзюрич, Э. В. «Не поднимаешься – значит, падаешь», – уверен мастер, воссоздавший крест Евфросинии Полоцкой // Брестчина: журналисты рассказывают. – Брест, 2006. – С. 17–23.

57. Кузьмич Николай Петрович // Республика Беларусь : энциклопедия : [в 7 т.]. – Минск, 2007. – Т. 4. – С. 339.

58. Аляксееў, А. Спадчына Беларусі = The Heritage of Belarus. Treasures / Аляксандр Аляксееў, Алег Лукашэвіч ; пер. на англ. мову В. С. Плютава. – Мінск : Мін. ф-ка каляр. друку, 2007. – 318 с. – На беларус. і англ. мовах. – Звесткі пра творы М. Кузьміча: с. 308–315.

59. Дрогичинский край = Drahichyn and its environs : [фотоальбом / авт.-сост.: Владимир Зенько, Эдуард Злобин]. – Пинск : ИРА «Паляшук», 2007. – 51 с. : цв. фот. – На рус. и англ. яз. – Вулька-Антопольская известна тем, что является местом становления мастера, фотография Н. Кузьмича и его знаменитой работы (Крест Евфросинии Полоцкой): с. 25.

60. Бунеева, Л. «Аксиос!» для мастера. Брестскому художнику-эмальеру Николаю Кузьмичу вручен орден Преподобной Евфросинии Полоцкой / Людмила Бунеева ; фото Николая Чеберкуса // Веч. Брест. – 2007. – 8 июня (№ 46). – С. 2.

61. Награда за святое дело. Известный мастер Николай Кузьмич получил орден Преподобной Евфросинии Полоцкой за воссоздание серебряной раки // Заря. – 2007. – 9 июня (№ 64). – С. 2.

62. Дзюрич, Э. В огне рожденное искусство : [об открытии персональной выставки в Художественном музее Брестской крепости] / Эмма Дзюрич ; фото Валерия Короля // Заря. – 2007. – 19 июня (№ 68). – С. 1, 2.

63. Шульга, Д. Сказка из меди и эмали : [в Художественном музее мемориального комплекса «Брестская крепость-герой» открылась выставка брестского художника-эмальера Н. Кузьмича, на которой представлены творческие циклы, выполненные в технике художественной эмали] / Даша Шульга ; фото авт. // Веч. Брест. – 2007. – 20 июня (№ 49). – С. 8.

64. Павлова, Л. Прыжок через века. Пламенная пластика Николая Кузьмича : [первая персональная выставка работ художника-эмальера в Художественном музее в крепости над Бугом] / Любовь Павлова // Брест. курьер. – 2007. – 21 июня (№ 25). – С. 32.

65. Вкратце… Брестскому художнику Николаю Кузьмичу присвоено почетное звание «Заслуженный деятель искусств Республики Беларусь»// Брест. курьер. – 2007. – 12 июля (№ 28). – С. 2.

66. З узнагародай! : [старшыні Брэсцкай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў» Мікалаю Пятровічу Кузьмічу прысвоена ганаровае званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь»] // Нар. трыбуна. – 2007. – 14 ліп. (№ 28). – С. 1.

67. Кузьміч, М. Мікалай Кузьміч, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь : «Усё трэба рабіць з любоўю» / гутарыла Алена Капачова ; фота Святланы Сасоннай // Нар. трыбуна. – 2007. – 8 верас. – С. 4.

68. Кузьміч, М. П. Каб шчасце прыйшло як заслуга / гутарыла Алена Капачова //ЛіМ. – 2008. – 2 мая (№ 18). – С. 10.

69. Шаранговіч, Н. Эмаль: запраграмаваная нечаканасць : [аб працах Мікалая Кузьміча] / Наталля Шаранговіч // Мастацтва. – 2008. – № 6. – С. 38, 40–41 : каляр. іл.

70. Кузьміч, М. Мікалай Кузьміч: «Мець чыстую душу і маліцца свайму Богу…» / Мікалай Кузьміч // Мастацтва. – 2008. – № 6. – С. 39–41 : каляр. іл.

71. Кузьмич Николай Петрович // Регионы Беларуси : энциклопедия : в 7 т. – [Т. 1] Брестская область : в 2 кн. – Минск, 2009. – Кн. 1. – С. 514.

72. Аляксееў, А. Скарбы Беларусі = Treasures of Belarus / Аляксандр Аляксееў, Алег Лукашэвіч ; пер. на англ. мову В. С. Плютава. – Мінск : Залаты град, 2009. – 318 с. – На беларус. і англ. мовах. – Звесткі пра творы М. Кузьміча: с. 308.

73. Богданова, К. Загадка «Белорусской Атлантиды» : [Николай Кузьмич подарил Художественному музею около сорока своих работ] / Катерина Богданова // Веч. Брест. – 2009. – 16 сент. (№ 73). – С. 8. – Фото работ из серии «Белорусская Атлантида»: «Еўфрасіння» и «Торвальд Вандроўнік».

74. Павлова, Л. В ворота вечности можно войти при жизни : [персональная выставка художника-эмальера, заслуженного деятеля искусств Николая Кузьмича открылась в Художественном музее] / Любовь Павлова; фото Юрия Макарчука // Брест. курьер. – 2009. – 17 сент. (№ 38). – С. 9.

75. Кузьмич, Н. Николай Кузьмич: «Надо работать, а не ждать, когда придет вдохновение» / беседовала Елена Данилова ; фото Валерия Короля // Заря. – 2009. – 3 дек. (№ 137). – С. 18–19.

76. Мікалай Кузьміч = Mikalai Kuzmich // Мастакі Брэстчыны = Artists of the Brest region : альбом-каталог / [аўт.-склад. М. П. Кузьміч ; аўт. уступ. арт.: К. А. Сумар, М. Кузьміч, Н. Шаранговіч]. – [Брэст, 2010]. – С. 70.

77. Лазовская, Ж. Свой Крест / Жанна Лазовская // Рэспубліка. – 2010. – 5 чэрв. (№ 103). – С. 7.

